# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№ 2 (192)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ ШКОЛЫ – ЯКІ ЁН?

**У суботу 21-га студзеня ў бешанковіцкай гімназіі настаўнікі падвялі вынікі конкурсу "Настаўнік года – 2016". Былі вызначаны чатыры пераможцы, якія будуць прадстаўляць наш раён на абласным этапе.**

Удзельнікі конкурсу дзяліліся сваімі методыкамі і дасягненнямі, распавядалі пра інавацыйныя тэхналогіі і прымяненне камп'ютараў у навучанні. Яны дзяліліся сваім бачаннем сённяшняга дня і дня заўтрашняга.

Але я тут хачу распавесці пра іншае. На беларускай мове з 14-ці выступоўцаў выступалі толькі настаўнікі беларускай мовы, а яшчэ адна настаўніца пачатковай сельскай школы. І ейны выступ знайшоў водгук у маёй душы. Бо яна распавяла, што ёйным дзеткам у школе вельмі цяжка даецца навучанне беларускай мове, і ёй прыходзіцца прыбягаць да розных хітрыкаў, каб яны неяк засвоілі тое ці іншае роднае слова.

Магу засведчыць з уласнага вопыту, што сённяшнія школьнікі, нават у школах з беларускай мовай навучання, не ведаюць беларускай мовы і, за рэдкім выключэннем, не могуць звязаць на ёй пары слоў. Напрыклад, калі я даю ім з нямецкай мовы пераклад слова "сумленны", яны заўжды пытаюцца: а гэта што, "сумны"? І праз два ці тры ўрокі значэння гэтага слова ўсё роўна не ведаюць. Мае трэцякласнікі не ведаюць словаў "столь", "шкарпэткі", "прыбіральня" і г. д. А пра "аловак" перапытваюць: "Гэта – карандаш ці не?"

Далей – болей. У старэйшых класах пры чытанні мастацкай літаратуры літаральна ў кожным сказе вучням не зразумелыя тыя ці іншыя словы. Фактычна яны не могуць чытаць мастацкую літаратуру без слоўніка. І не чытаюць. Ведаю, што многія настаўнікі беларускай мовы "рэкамендуюць" сваім вучням чытаць творы беларускіх пісьменнікаў … у перакладзе на рускую мову.

Мы знішчылі беларускую мову ў школах. Няма яе і ў дзіцячых садках. І зараз грамадству і дзяржаве патрэбна рабіць вялізныя высілкі, каб спыніць працэс вынішчэння і распачаць карпатлівую стваральную працу.

Што, будзем чакаць адпаведнага прэзідэнцкага ўказа, ці мо апярэдзім яго на год-другі, і распачнём гэту працу ўжо сёння? Тым больш, што настаўнікі-прадметнікі, якія валодаюць мовай, яшчэ не адышлі ў лепшы свет. Пасля закрыцця беларускамоўных сельскіх школ у нашым раёне яны ўладкоўваюцца хто куды.

Гадоў праз 10 нам прыйдзецца спачатку рыхтаваць такіх педагогаў, а ўжо потым распачынаць беларусізацыю нашай школы. Але ж прыйдзецца! Іншага шляху ў незалежнай Беларусі проста няма.

**Г.Станкевіч**

* * * *

*Вялізны зорны карабель*
*спыніўся, быццам сеў на мель,*
*і кроплі-зоркі па адной*
*сцякаюць з вёслаў.*
*Нябёсаў ціхае святло*
*ў сцяжынку раптам перайшло,*
*па ёй бяжыць*
*якісь хлапчук узнёслы*

*Сцяжынак-павуцінак боль*
*мяне заве ўсё больш і больш,*
*іх чуйны сон чартапалох*
*вартуе вечны.*
*Прысню часінай: мчу па іх,*
*трава – вышэй сцяжынак тых*
*над галавой маёй звісае*
*Шляхам Млечным.*

*Адтуль плыве ў душу маю*
*агонь ўспамінаў, што я п'ю*
*з глыбінь няведаных нікому,*
*дзе бясконцасць.*
*Яго святло ўва мне жыве,*
*і ўжо, напэўна, цэлы век*
*я прачынаюся, ўстаю,*
*а ў сэрцы – сонца.*

*Сцяжынак насамрэч няма,*
*іх скрала вечная зіма –*
*наўкола бель, нямая ціш гуляе.*
*І толькі вечнае святло*
*струменіць знекуль з-пад аблок –*
*яно не знікне нікуды, я тое знаю.*

***Г.Станкевіч***

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

ЖЫЦЦЁВАЯ СІТУАЦЫЯ

## ЖЫХАРУ БЕШАНКОВІЧАЎ АДМАЎЛЯЮЦЬ У ПЕНСІІ

**Звярнуцца ў рэдакцыю Сяргея Галая з Бешанковічаў вымусіла бязвыхадная, на яго думку, сітуацыя. Былы газаэлектразваршчык быў упэўнены ў тым, што яшчэ ў жніўні 2016 года сыдзе на пенсію. Але не атрымалася. Наймальнік страціў дакументы…**

Сяргей Аляксеевіч паказвае пасведчанне, якое пацвярджае яго кваліфікацыю, і распавядае сваю няпростую жыццёвую гісторыю.

Родам з Лепельшчыны. Пасля школы атрымаў прафесію зваршчыка. Працаваў па спецыяльнасці на станцыі тэхабслугоўвання ў Чашніках, потым - у Шумілінскай ПМК. У Бешанковіцкую сельгастэхніку прыйшоў у 1987 годзе.

- Вытворчая база тады як раз пашыралася, - успамінае ён. - Таму работы было шмат. Рукі зваршчыка патрабаваліся ўсюды - як у цэхах, так і на ведамасных аб'ектах сацыяльнай сферы. Варыў ацяпленне, басейн, кран-бэлькі для ўздыму тэхнікі ў цэху буйнагабарытных вырабаў, электродным цэху, на разгрузачнай пляцоўцы. На «лятучцы» калясіў па раёне - цеплатрасы, сады, школы ... Да таго часу я ўжо з другога разраду дайшоў да пятага, кваліфікацыю падвышаў у Мазыры. Прапрацаваў у сельгастэхніцы амаль 7 гадоў, а потым быў вымушаны сысці - у 1994 годзе ўсім было няпроста. Заказы пайшлі на змяншэнне, прадпрыемства перажывала не лепшыя часы, знізілася зарплата. Уладкаваўся ў аўтабазу райспажыўсаюза. Таксама газаэлектразваршчыкам - варыў машыны ў боксах, ацяпленне ў крамах, катлы на кацельні.

Толькі зараз, праз больш за 20 гадоў, Сяргей Галай даведаўся, што там былі нейкія нестыкоўкі ў паперах. А тады яму проста сказалі: у нас працы для тваёй высокай кваліфікацыі няма, таму бяром цябе зваршчыкам 4-га, а не 5-га разраду. У працоўнай так і запісалі. І звольнілі пасля таксама газаэлектразваршчыкам. Прынамсі, запіс аб рэарганізацыі аўтабазы ў райпо ёсць у наяўнасці, і пасада Галая не зменена. А цяпер вось высветлілася, што па паперах ён наогул нібыта лічыўся ў райпо ... рознарабочым. Здарылася гэта, маўляў, з-за таго, што ў арганізацыі яшчэ ў 1992 годзе павінны былі правесці тэставанне працоўных месцаў, а гэта вымагала пэўных сіл і сродкаў. Вырашылі не затлумляцца, але чалавеку ніхто не паведаміў.

- Гэтыя дэталі ўсплылі ўжо цяпер, у часе суду, - тлумачыць Сяргей Галай. - А тады я пра тэставанне нічога не ведаў і проста выконваў абавязкі газаэлектразваршчыка. Ведаючы, што за спіной амаль 20 гадоў стажу ў шкодных умовах працы, быў упэўнены, што маю права на льготную пенсію. Незадоўга да 55-гадовага юбілею стаў збіраць дакументы.

Вось тут і пачаліся непрыемныя сюрпрызы. Усе прадпрыемствы, дзе працаваў зваршчык Галай, пацвердзілі яго стаж і прафесію. Акрамя двух былых наймальнікаў. Першым ашаламіў цяперашні райаграсэрвіс. Там, па словах Галая, паведамілі, што дакументы не захаваліся. Яны нібыта знішчаныя, так як больш за тры гады іх захоўваць не абавязаны (?!). Так, на заработную плату нарады захаваліся. Але гэтага недастаткова, каб пацвердзіць стаж і пасаду. Пасля неаднаразовых патрабаванняў прэтэндэнту на льготную пенсію напісалі адмоўны ліст: няма, маўляў, папер, і ўсё тут.

Сёння Сяргею Аляксеевічу для выкарыстання свайго законнага права на атрыманне льготнай пенсіі не хапае ўсяго 4 гады. «Дзякуючы» райаграсэрвісу і райпо ён губляе каля 10 гадоў стажу.

Разам з жонкай-пенсіянеркай Тацццянай Іванаўнай яны месяцамі ходзяць па інстанцыях, але безвынікова. З апошняга месца працы Сяргея скарацілі яшчэ год таму, таму ў сям'і чакалі прызначэння яму пенсіі з асаблівым нецярпеннем. Цяпер даведаліся, што з-за страты дакументаў у былой сельгастэхніцы пацярпеў не толькі Сяргей Аляксеевіч - яшчэ некалькі чалавек былі вымушаныя шукаць справядлівасці ў судзе. Хтосьці змог дамагчыся праўды, хтосьці не. Жонка ўчорашняга зваршчыка наракае:

- Што цяпер рабіць, мы не ведаем. У Бешанковічах няма працы. Звярталіся ў цэнтр занятасці, але акрамя вакансіі грузчыка, ды і то на час адпачынку, нам прапанаваць нічога не змаглі. Зваршчыкам, нават калі б была магчымасць, муж працаваць ужо не ў стане - зрок падводзіць пасля дваццаці гадоў працы на шкоднай вытворчасці.

*(працяг на стар. 2)*

НАША ЖЫЦЦЁ

## СТРАШНАЯ СТАТЫСТЫКА

**Як сведчыць сайт бешанковіцкага райвыканкаму, на 1 студзеня 2017 года на тэрыторыі Вульскага сельсавета пражывала 1318 чалавек. З іх мужчын – 631, жанчын – 687, дзяцей да 18 гадоў – 125, пенсіянераў – 536, інвалідаў – 77. Шматдзетных сем'яў – 6, адзінокіх – 406.**

А яшчэ летась (на 01.01.2016) колькасць пражываючых у Вульскім сельсавеце складала 1390 чалавек. За адзін толькі мінулы год Ульскі сельскі савет згубіў аж 78 чалавек: 41 жанчыну і 37 мужчын. Аграгарадок Ула за мінулы год скараціўся на 20 чалавек. Найбольшая вёска Сокарава зменшылася на 13 чалавек.

Калі летась дзяцей да 18-гадовага ўзросту на тэрыторыі Вульскага сельскага савета было 160, сёлета засталося толькі 125.

Колькасць навучэнцаў Ульскай сярэдняй школы на 01.01.2017 склала 91 чалавек, а год таму іх было 94.

За 2016 год у Вульскім сельсавеце нарадзілася шасцёра (!!!!) малышоў.

Страшная статыстыка. Чаму за яе ніхто не адказвае?

І ў той жа час Прэзідэнт краіны Лукашэнка падпісаў 23-га снежня 2016 года чарговы ўказ №481 "Аб аб'яўленні 2017 года годам навукі". А трэба было б аб'явіць гэты год, як і ўсе наступныя за ім гады, гадамі адраджэння беларускай вёскі. Ды што аб'яўляць – трэба дзейнічаць.

**М.Васільеў**

ЖЫЦЦЁВАЯ СІТУАЦЫЯ

*(пачатак на стар. №1)*

Сітуацыя няпростая. Як яе пракаменціруюць ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Бешанковіцкага раёна? Загадчыца пенсійным аддзелам Антаніна Русецкая паведаміла:

- Так, праблема існуе. Дзве арганізацыі з пяці адмовіліся выдаць Сяргею Галаю даведку, якая патрабуецца для прызначэння льготнай пенсіі, бо не могуць дакументальна пацвердзіць права былога работніка на яе атрыманне. Пры выдачы даведкі павінна быць улічана мноства нюансаў. У тым ліку ці працаваў газаэлектразваршчык поўны працоўны дзень, ці праводзілася атэстацыя працоўнага месца, якім выглядам зваркі канкрэтна ён займаўся і іншыя моманты. А як сёння гэта пацвердзіць, калі дакументы не захаваліся?

У цяперашні час суд запатрабаваў наменклатуры спраў з райпо і райаграсервісу, каб усталяваць, ці ёсць віна арганізацый у адсутнасці патрэбных папер. Калі вінаватыя былыя наймальнікі, то суб'екты гаспадарання па іску пацярпелага аб нанясенні шкоды будуць вымушаныя выплачваць яму суму, роўную ўмоўнай пенсіі. Калі няма, то, як і ўсе яго равеснікі мужчынскага полу, Сяргей Аляксеевіч Галай сыдзе на пенсію ў 63 гады.

Начальнік аддзела кадраў Бешанковіцкага райпо Людміла Шчадрова адзначае: сёння, праз 20 гадоў, складана нешта высветліць дакладна. Так, у разліковых лістах пасада Сяргея Галая значыцца як рознарабочы. Загаду аб пераводзе з газа-электра-зваршчыкаў у рознарабочыя на прадпрыемстве не знайшлі. Можна толькі меркаваць, што праца ў зваршчыка па спецыяльнасці была невялікая, а таму яго прыцягвалі да іншых прац. Вось і пісалі, мабыць, у дакументах іншую пасаду.

- Пра атэстацыю працоўных месцаў нічога не ведаю. Мы спрабавалі знайсці архіўныя дадзеныя за тыя гады ў Віцебску, але беспаспяхова, - тлумачыць Людміла Міхайлаўна. - Прадпрыемства рэарганізоўвалася, аб'ядноўвалася, кіраўнікі мяняліся. Будзем старацца ўсталяваць ісціну, каб чалавек не пацярпеў.

Яшчэ больш змяненняў адбылося за два дзесяцігоддзі ў былой Сельгастэхніцы. Аб'яднанне з Аграснабам і Сельгасхіміяй, далучэнне сельгаспрадпрыемстваў ... Размаўляючы з многімі службовымі асобамі, я спрабавала даведацца: можа, Сяргей Аляксеевіч сам дзесьці памыліўся, нешта не прадугледзеў, ня збярог патрэбныя паперы? Ды не, ад яго нічога не залежала. І аб захаванасці вытворчага архіва, вядома ж, ён таксама не абавязаны быў клапаціцца ...

Ніна Калымага, намеснік старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага аблвыканкама, дае свой каментар:

- На жаль, такія факты ў практыцы работы службы прызначэння і выплаты пенсій далёка не рэдкасць. За апошнія гады сотні прадпрыемстваў зведалі арганізацыйныя змены, некаторыя спынілі сваё існаванне. І далёка не ўсе з іх паклапаціліся аб сваіх былых супрацоўніках, захоўваючы ў адпаведнасці з наменклатурай поўны аб'ём неабходных для назначэння пенсій дакументаў. Вось і прыходзіцца людзям ісці ў суд і з яго дапамогай ліквідаваць прабелы. Дарэчы, з пачатку года ў судах Віцебскай вобласці ўжо разгледзелі 320 такіх спраў. Асноўныя просьбы пазоўнікаў - усталяванне ільготнага стажу і заробку. А віной усяму нядобрасумленнасць наймальнікаў, якія не захавалі дакументы.

**“СБ - Беларусь сёння”**

ЗДАРЭННІ

# ШУКАЮЦЬ ІНВЕСТАРА ДЛЯ БУДАЎНІЦТВА ГЭС

**У мэтах павышэння энергетычнай бяспекі Беларусі за кошт уключэння ў паліўна-энергетычны баланс мясцовых і аднаўляльных крыніц энергіі, у адпаведнасці з «Канцэпцыяй энергетычнай бяспекі Рэспублікі Беларусь да 2020 года» на Віцебшчыне плануецца стварэнне каскаду з чатырох гідраэлектрастанцый.**

На дадзены момант у завяршальнай стадыі знаходзіцца будаўніцтва двух з іх: Віцебскай і Полацкай. Іх вызначаная магутнасць - 21,75 і 40 МВт адпаведна. Рэалізацыя дадзеных інвестыцыйных праектаў дасць магчымасць замяшчаць аб'ём прыроднага газу ў эквіваленце 74 тыс. т умоўнага паліва ў год за кошт выкарыстання энергіі ракі.

Наступная на чарзе - Бешанковіцкая ГЭС. Яна павінна размесціцца на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна паміж Віцебскай і Полацкай гідраэлектрастанцыямі. Для забеспячэння прапускной здольнасці Заходняй Дзвіны тут прадугледжана будаўніцтва ў створы ГЭС суднаходнага шлюза. Магутнасць станцыі складзе 33 МВт. Праектная выпрацоўка электраэнергіі для сярэдняга па воднасці года - 130 млн. КВт ч. Воднаэнергетычны разлік і разлік па падборы гідраэнергетычнага абсталявання Бешанковіцкай ГЭС паказалі, што ў якасці асноўнага абсталявання аддадуць перавагу прымяненню турбін з гарызантальнай воссю. Магчыма выкарыстанне рознай колькасці гідраагрэгатаў - ад 3 да 6 штук. Максімальны расход вады праз ГЭС складзе 465 куб.м / с. Плошча вадасховішча - больш за 1800 га. Максімальны перапад узроўняў паміж верхнім і ніжнім б'ефамі - 9 м.

Арыенціровачны кошт праекта складае 186 млн даляраў. У дадзены момант РУП «Віцебскэнерга» вядзе работу па пошуку інвестараў, гатовых прыняць удзел у рэалізацыі дадзенага перспектыўнага праекта. Усю неабходную інфармацыю можна знайсці на сайце www.vitebsk.energo.by.

**Вольга Маслоўская**
**Віцебскія весці**

ПА СЛЯДАХ ЗДАРЭННЯ

# ЧАМУ МАЛАДЫ ТАДЖЫК ЗАБІЎ КАЦЮ САЧКОВУ

**Родныя радаваліся за Кацю. Жыццё 24-гадовай дзяўчыны, здавалася, пачала наладжвацца. Яна, нарэшце, выкараскалася з выматвальных адносін з бойфрэндам, які спрабаваў яе выкарыстоўваць, змяніла працу, атрымала пакой у інтэрнаце і нават завяла новае цікавае знаёмства з маладым чалавекам. Аднак у адзін з дзён Каця Сачкова не выйшла на працу і перастала адказваць на тэлефонныя званкі.**

Устрывожаная маці Каці звярнулася ў міліцыю. У заяве яна паказала, што да знікнення дачкі можа мець дачыненьне яе былы кавалер, таджыкскі хлопец па імі Іном. Ён ніяк не хацеў змірыцца з іх разрывам, названьваў і слаў паведамленні, вартаваў каля дзвярэй інтэрната. Аднак дзяўчына не збіралася да яго вяртацца, бо іх адносіны ўяўлялі сабой чараду падманаў, здрад і клопатаў. З-за Інома яна страціла сяброў: той займаў у іх грошы, а вяртаць даводзілася ёй. Каця была вымушана надзвычай шмат працаваць, яна моцна стамлялася, стала нервовай і крыўдлівай. Затое растанне падзейнічала самым спрыяльным чынам: Каця знаходзілася ў добрым настроі, зрабіла новую прычоску і збіралася адпраевіцца на турзлёт.

Кацю Сачкову шукалі родныя, знаёмыя, валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл». Паралельна займаліся сваёй працай аператыўнікі.

Іном Ісмаілаў пагадзіўся на прапанову супрацоўнікаў міліцыі сустрэцца і пагутарыць, аднак у прызначаны час не з'явіўся і адключыў тэлефон. Па названым ім адрасе хлопец, аказваецца, ужо не пражываў.

Аператыўнікі ўстанавілі, што ў тую ноч, калі змоўк Каціц тэлефон, Іном чамусьці ездзіў у Бешанковіцкі раён, адкуль была родам Каця. Хлопца суправаджала сяброўка па імені Вольга, тая самая, чый адрас Іном назваў у якасці месца свайго пражывання.

Разгубленая Вольга распавяла аператыўнікам, што Кацю той ноччу не бачыла. Яна стэлефанавалася з Іномам, каб даведацца, калі ён верне ёй доўг ... Аказваецца, малады таджык як толькі мог падманваў добрасардэчных паненак. Ён сустракаўся адначасова з некалькімі дзяўчынамі, пакараў іх сваім абаяннем, а затым пачынаў скардзіцца на жыццёвыя цяжкасці і нягоды. Адна з яго сябровак ўзяла ў банку вялікі крэдыт, каб дапамагчы маладому чалавеку пачаць свой бізнэс. Потым яму зноў спатрэбіліся грошы - нібыта для транспарціроўкі на гістарычную радзіму цела памерлага бацькі. Іншай ён паабяцаў абнесці плотам яе дачу і адрамантаваць машыну. На гэтыя мэты ўзяў 5 мільёнаў недамінаваных рублёў і амаль тысячу долараў - і знік. Вольга ж, за чый кошт ўсходні альфонс жыў каля месяца, узяла ў крэдыт 24 мільёны рублёў, каб Іном мог адкупіцца ад хлопца, якога быццам бы неспадзявана пакалечыў у бойцы.

Ён так прывык выкарыстоўваць жанчын, што і з Вольгай пагадзіўся сустрэцца толькі ў сваіх мэтах. Спачатку папрасіў здаць у ламбард залаты ланцужок, сам ён не мог гэта зрабіць з-за адсутнасці беларускага пашпарта ... Азіраючыся назад, Вольга прызнала, што паводзіны Інома былі надзвычай падазронымі, вось толькі яна не захацела надаваць значэння дзівацтвам і задаволілася, мякка кажучы, не зусім пэўнымі тлумачэннямі. Так, Іном прасіў яе разлічыцца банкаўскай карткай, на якой значылася чужое жаночае імя. Затым ўгаварыў узяць напракат машыну, каб з'ездзіць кудысьці за 150 кіламетраў ад горада, прычым паездка адбылася глухой ноччу. У Сеніцы, дзе Іном з братам здымалі кватэру, ён паклаў у багажнік нешта цяжкае. Вялікую торбу з паклажай хлопец проста выкінуў у прыдарожны кювет ў бязлюдным месцы.

Аператыўнікі прывезлі Вольгу ў ламбард, дзе яна паказала той самы ланцужок. Упрыгожанне паказалі Кацiным родным, і тыя ўпэўнена заявілі, што менавіта яго падарылі дзяўчыне на дзень нараджэння. І тады ў сышчыкаў паўсталі вельмі нядобрыя падазрэнні з нагоды вялікай чорнай сумкі.

Янатакістаялаўпрыдарожным кювеце за некалькі кіламетраў ад вёскі, дзе пражывалі Каціны родныя. У сумцы знаходзілася цела беднай дзяўчыны. На месца знаходкі неадкладна выклікалі следча-аператыўную групу і эксперта-крыміналістаў.

Экспертыза ўстанавіла, што ахвяра была задушаная. Іному нічога не заставалася, акрамя як даць прызнальныя паказанні. Зрэшты, з такім жа поспехам ён мог прамаўчаць - усё роўна яго аповяд ўяўляў сабой нагрувашчванне хлусні. Так, хлопец ні словам не абмовіўся пра разрыў. Запэўніваў, што яны сустрэліся «як звычайна», паехалі да яго на кватэру, павячэралі і ляглі спаць. Застаецца толькі здагадвацца, якім спосабам ён здолеў прывабіць да сябе дзяўчыну, якая не жадала падтрымліваць з ім ніякіх адносін. На наступную раніцу Каця нібыта закаціла яму скандал з рэўнасці. Жадаючы ўсяго толькі супакоіць яе, ён быццам бы абняў дзяўчыну і прыціснуў да сябе - а яна задыхнулася! Спалохаўшыся, Іном вырашыў адвезці цела бліжэй да бацькоўскага дома, каб дзяўчыну хутчэй знайшлі і пахавалі. А паколькі грошай у яго не было, прыйшлося ўзяць Каціну банкаўскую картку і залаты ланцужок ...

Матэрыялы крымінальнай справы не пакінулі ад гэтай версіі каменя на камені. Камеры банкаматаў зафіксавалі, што ўжо ўвечары таго дня, які нібыта скончыўся мірным вячэрай і моцным сном, Іном ліхаманкава спрабаваў падабраць ПІН-код да банкаўскай карткі. Верагодна, у гэты час Каці ўжо не было ў жывых. Ды і механізм задушвання зусім не быў падобны на суцяшальныя, але занадта моцныя абдымкі.

- Ацаніўшы сабраныя па справе доказы, суд знайшоў цалкам даказанай віну Інома ў наўмысным забойстве, крадзяжы і замаху на крадзеж маёмасці шляхам ўвядзення ў кампутарную сістэму ілжывай інфармацыі, - паведаміла дзяржаўны абвінаваўца Вольга Галко.-Ісмаілаўбыўпрысуджаны да 18 гадоў пазбаўлення волі.

Застаецца незразумелай настойлівасць, з якой малады чалавек пераследваў былую дзяўчыну.

- Магчыма, у яго мінулым здарыласянейкаеадрыньванне, - мяркуе сямейны псіхолаг Вольга Лупач. - Малады чалавек быў кімсьці адкінуты на ранняй стадыі станаўлення асобы. Не выключана, што маці. Маці - гэта святое для ўсходняга мужчыны, пра яе нават падумаць дрэнна нельга. Несвядомая агрэсія перанеслася на іншых жанчын. Прадўваючы за кошт жанчын, падманваючы іх, ён самасцвярджаўся, узвышаў сябе над імі. Самым крайнім праяўленнем дэманстрацыі ўлады над жанчынай і стала забойства беднай дзяўчынкі.

**Аксана Неўмяржыцкая**
**“СБ - Беларусь сёння”**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі “Крывінку”, то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО ПОТЕРЯЛ НЮХ?

**В чем просчитался глава государства в борьбе с «иждивенцами». Поразительно, насколько непрагматично повел себя в ней Александр Лукашенко. Наверное, в теории, которую ему представили, все выглядело достаточно неплохо. Действительно, почему бы не собрать деньги с тех, кто не платит налоги, а пользуется социалкой?**

На практике же глава Беларуси настроил против себя существенную часть общества, а новых сторонников вряд ли приобрел. К алкоголикам и бичам приравняли, к примеру, домохозяек (исключение сделали для тех, у кого дети до 7 лет). Этому удивились даже на государственном телевидении.

Лукашенко вполне мог сохранить лицо, если бы «отмотал» свое решение. Подобный фокус он не раз проделывал прежде — вспомним хотя бы «откручивание» цен на продукты и бензин. Удивительно, что в этот раз глава государства не прочувствовал момент, и сделал еще хуже. Согласно недавним изменениям заставят платить налог и тех домохозяек, чьи дети с 3 до 7 лет получают дошкольное образование.

Впечатляет и цена вопроса, из-за которой руководитель страны устроил всю эту возню. К примеру, повышение пенсионного возраста многим может не нравиться, но в том, что этот выгодно для государства, сомневаться не приходится. А вот что касается «тунеядцев»...

По последним данным им направлено 400 тысяч извещений на уплату сбора. Сделаем смелый прогноз — налог оплатит половина. В этом случае в бюджет поступит около 40 млн долларов. Это много или мало? Предоставим слово самому Александру Лукашенко.

Говоря о том, во сколько обойдется проведение Европейских игр, он отметил: «Нам надо будет затратить где-то под 50 миллионов долларов за эти годы. Это слезы для страны».

Но и более крупные суммы государство не впечатляют. В декабре Лукашенко заявил, что за год резиденты СЭЗ перечислили в бюджет «несчастных» 200 млн долларов. К слову, ВВП страны составляет около 50 млрд. долларов.

Наконец, давайте вспомним 2011 год. Тогда страна жила в условиях девальвации и валютного кризиса. Но глава государства не стал дальше обдирать людей, а наоборот распорядился осенью выдать бюджетникам и неработающим пенсионерам по 500 тысяч рублей — «на овощи». Заявлялось, что для этой единовременного подарка государство выделило 1,7 триллиона рублей.

Согласно тогдашнему курсу этот составляло около 300 млн долларов. То есть в несколько раз больше, чем теперь власти пытаются выбить с «тунеядцев».

Большая загадка, что же произошло с Лукашенко за время, прошедшее с тех пор. Он сегодняшний все меньше похож на того человека, который раньше нутром чувствовал, как заработать очки в глазах электората. Вместо этого — непродуманные радикальные решения и упорство — достойное лучшего применения.

И, пожалуй, уже сейчас можно назвать главный итог еще продолжающейся борьбы с «иждивенчеством». Вне зависимости от того, чем она закончится, глава Беларуси вряд ли сможет восстановить свои репутационные потери.

**Руслан Горбачев**
**http://gazetaby.com**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «МАТРЫЦА ЗАДАЧ» ЯК АПОШНІ ДОВАД

**Студзень — час фантазаваць на тэму бліжэйшых перспектыў беларускай мадэлі. 2017 год — юбілейны! Юбілей дзвюх рэвалюцый. На думку АП, «беларусы свой рэсурс рэвалюцый вычарпалі». Але тут ёсць з чым паспрачацца.**

На першы погляд, паміж мінулым, сучаснасцю і будучыняй існуе лінейная сувязь. Але гэта побытавае ўяўленне. На мяжы IV–V стагоддзяў нашай эры жыў хрысціянскі багаслоў Блажэнны Аўгустын. Ён адмаўляў мінуламу і будучыні ў праве на існаванне, мяркуючы, што ёсць толькі тры віды гэтага: мінулае сучаснасці, цяперашчына сучаснасці і будучыня сучаснасці.

Зразумець гэта даволі проста. Што азначае для кожнага з нас мінулае? Толькі тое, што мы думаем пра яго ў рэжыме тут і цяпер. Напрыклад, на думку галоўнага героя «азбук паліталогіі», 25 гадоў таму ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць Белавежскага пагаднення. Але асабіста для мяне і для ўсіх, хто меў магчымасць трымаць у руках пратакол гістарычнага галасавання, такога мінулага ніколі не існавала.

Мінулае, сучаснасць і будучыня ў кожнага свае, і разгортваецца гэта тройца адначасова. Таму любая спроба прагнозу ўпіраецца ў разуменне сучаснасці, з якой, як стрэлы з цыбуліны, вырастаюць магчымыя варыянты будучыні, і як карані прарастаюць варыянты мінулага.

**Чатыры сцэнары**

Па якім сцэнары жыла беларуская мадэль у мінулым годзе? Колькі людзей — столькі і меркаванняў. Але, каб спрасціць пошукі адказу, я прапаную набор найбольш верагодных сцэнарных варыянтаў: крызісны, інерцыйны, кансерватыўны і мадэрнізацыйны.

Які сцэнар афіцыйна дэкларуецца? Адказ на гэта пытанне знойдзем у перадвыбарчай праграме адзінага палітыка (АП) узору 2015 года. Прывяду ключавыя цытаты: «Нам нельга страціць тое, што ўжо дасягнута». «Перш за ўсё мы павінны абараніць тое, што ўжо створана». «Што маем — не захоўваем, страціўшы — плачам», — так кажа народная мудрасць».

Выбар на карысць кансерватыўнага (ахавальнага) сцэнару відавочны. Праз тры месяцы ў навагоднім віншаванні ён быў дапоўнены падрабязнасцямі, якія палохалі: стары парадак руйнуецца, ідзе новы перадзел свету, і ў гэтай «абстаноўцы мы яшчэ вастрэй адчуваем велізарную каштоўнасць спакою, міру і згоды ў нашай краіне. На вялікае шчасце, нам удаецца зберагчы Беларусь ад войнаў, тэрарызму і ўнутранай смуты».

Вось такая цяпершчына сучаснасці. Калі з усіх правоў чалавека актуальным становіцца толькі права на жыццё, тады згадкі трохгадовай даўніны пра мадэрнізацыю і асцярогі «застацца на ўзбочыне гісторыі» пачынаюць успрымацца як блюзнерства.

Так, на ўзбочыне, але жывыя! І няхай «сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя пастаяннага паскарэння», мы яшчэ паглядзім, куды яе выкіне на чарговым гістарычным віражы. І глядзець мы будзем з Беларусі, якая пад мудрым кіраўніцтвам самі ведаеце каго ў наш дынамічны час застаецца цытадэллю «традыцыйнай культуры і маралі».

Але не ўсё, што ў палітыцы дэкларуецца, атрымліваецца рэалізаваць на практыцы. Калі замест абяцанага, няхай і нязначнага росту даходаў насельніцтва назіраецца іх устойлівае падзенне, дык ці не сведчыць гэта пра фактычную рэалізацыю крызіснага сцэнару?

Кансерватыўны сцэнар ва ўмовах істотнага пагаршэння знешняй кан'юнктуры можа запатрабаваць ад кіраўніцтва краіны нестандартных рашэнняў не ў меншым аб'ёме, чым сцэнар мадэрнізацыйны. Аднак з упартасцю, вартай лепшага прымянення, АП працягвае паўтараць пра нязменнасць першапачатковага курсу, рашуча спыняючы пры гэтым любыя рэфарматарскія ініцыятывы ўрада.

Такім чынам, фактычна мы маем інерцыйны сцэнар з высокімі шанцамі трансфармацыі ў сцэнар паўнавартаснага сістэмнага крызісу.

**Кожнаму па 500**

Лістапад запомніўся нечаканым вяртаннем да народа тэмы сярэдняга заробку ў 500 долараў. Чым скончылася першая яе рэалізацыя, мяркую, беларусы яшчэ не забылі. Калегі па аналітычным цэху, натуральна, пачалі ацэньваць шанцы рэалізацыі чарговай ініцыятывы АП.

Нагадаю, даручэнне пра выхад на сімвалічную адзнаку было агучана 14 лістапада ў час рабочай паездкі АП у Магілёў. Цытую: «Я не кажу, што павінны плаціць незаробленыя грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 долараў наблізіліся. Трэба людзей падтрымліваць, што б там ні было».

Рэкамендую ўважліва перачытаць цытату. У пачатку АП перасцерагае ад выплаты незаробленых грошай. Але заканчвае тым, што пастаўленая задача павінна быць выканана «што б там ні было».

Праз тры дні на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ АП быў максімальна канкрэтны: «Памерці, але выйсці на 500. Я буду рабіць усё, каб мы выйшлі на 500».

Каму канкрэтна трэба будзе памерці, ён не ўдакладніў. Ад сябе дадам, што апошняе абавязацельства ў афіцыйныя тэксты не патрапіла. Яно адсутнічае на сайце АП, няма яго і ў тэксце, апублікаваным у «Савецкай Беларусі».

Павышаць заробкі АП плануе за кошт росту прадукцыйнасці працы. Нічога асабліва беларускага ў гэтым няма. Так робіць увесь свет, інвестуючы штогод трыльёны долараў у новае абсталяванне, тэхналогіі і павышэнне кваліфікацыі работнікаў. Сучасны эканамічны рост — гэта рост інавацыйны. Як тут ні прыгадаць манцёра Мечнікава: «Раніцай грошы — днём крэслы, днём грошы — увечары крэслы...» Можна і наадварот. «Але грошы наперад!»




За студзень-кастрычнік 2016 года выдаткі на набыццё машын, абсталявання і транспартных сродкаў скараціліся ў Беларусі на 24,3%. Годам раней за аналагічны перыяд скарачэнне склала 26,6%. Доля інвестыцый у ВУП апусцілася да 18%. З такім паказчыкам ні адна нацыянальная эканоміка яшчэ не расла.

Але беларускай мадэлі астатні свет не ўказ. Рост прадукцыйнасці працы будзе забяспечаны за кошт падштурхоўвання і падсцёбвання кіраўнікоў. У поўнай адпаведнасці з канстытуцыйнай роўнасцю ўсіх формаў уласнасці (артыкул 13) кухталямі ды бізуном плануецца стымуляваць у роўнай ступені кіраўнікоў як прыватных, так і дзяржаўных прадпрыемстваў…

*(Скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**“Новы час”**

ТРАГІЧНЫ ВЫПАДАК

# «Я НІКОЛІ НЯ БЫЎ ДАРМАЕДАМ»…

**3 кастрычніка 60-гадовы Айвар Яскевіч заплаціў 360 рублёў падатку за «дармаедства». 6 сьнежня ён выкінуўся з 5 паверху, з сваёй кватэры ў Асіповічах. На стале пакінуў запіску і квітанцыю пра сплату «дармаедзкага падатку».**

«Там было напісана: «Я ніколі ня быў дармаедам, гвалтаўніком, рабаўніком, я ўсё жыцьцё сумленна працаваў», — жонка Галіна кажа, што гэтыя словы запомнілася ёй найбольш.

З Галінай мы размаўляем у яе дома. У Яскевічаў сьціплая кватэра на апошнім паверсе панэльнага дому. Галіна трымае ў руках тэчку з дакумэнтамі — тут працоўная кніжка Айвара, пэнсійнае пасьведчаньне, пасьведчаньне вэтэрана працы, падзячныя лісты.

«Столькі дакумэнтаў, а цяпер вось гэта — галоўны дакумэнт», — кажа яна, паказваючы пасьведчаньне пра сьмерць. Тут жа ў тэчцы і паведамленьне аб прызнаньні Айвара «дармаедам», і квітанцыя, якая пацьвярджае, што падатак у 360 рублёў ён заплаціў.

Айвар Яскевіч — карэнны асіпаўчанін. Імя яму даў бацька ў гонар доктара, які выратаваў яго ў вайну. Пра выпадак з мужам, апавядае Галіна, гудуць усе Асіповічы. Кажа, што нават на памінках яго згадвалі як вельмі вясёлага і жыцьцярадаснага чалавека.

«Ён такі чалавек быў, ведаеце, нікога не пакідаў убаку, — распавядае яна. — Вельмі зычлівы з усімі. З усімі павітаецца, спытае, як маюцца, як жыцьцё».

У Айвара 34 гады працоўнага стажу. Незадоўга да пэнсіі ён звольніўся з КРЗ (так у Асіповічах па звычцы называюць кардонна-рубэроідавы завод. Цяпер гэта прадпрыемства «Тэхнаніколь»). Там ён адпрацаваў 30 гадоў.

«Стасункі з начальствам былі ня вельмі добрыя. Ён напісаў заяву пра звальненьне — ганарлівы быў. І з траўня 2014-га не працаваў, — апавядае Галіна. — Мы спрабавалі ўладкавацца, але год да пэнсіі заставаўся — нідзе не хацелі яго браць… І вартаўніком хацелі, але нідзе ня бралі. Месяц, відаць, адпрацаваў апэратарам кацельні», — тлумачыць Галіна.

У красавіку Айвару споўнілася 60 і ён стаў пэнсіянэрам. А ўвосень атрымаў паведамленьне, што дзяржава прызнала яго дармаедам.

«Ён сабраў дакумэнты — пэнсійнае пасьведчаньне, працоўную кніжку, кажа: „Пайду ў падатковую, усё гэта пакажу“, — Галіна згадвае апошнія месяцы жыцьця мужа. — Прыходжу з працы, пытаюся: „Айвар, ты быў?“. Ён адказвае: „Быў, нічога не заплаціў, маўляў, сказалі — які вы дармаед“. Гэта ён сябе так супакойваў».

Жанчына кажа, што пра такую трагедыю яна не магла нават падумаць. «Гаварыў, што „вось высакосны год, як бы мне яго дажыць“, — кажа Галіна. — У яго была вельмі моцная дэпрэсія, асабліва апошні месяц. Ён калі сышоў з КРЗ, дзе адпрацаваў 30 год, вельмі моцна здаў — і сьпіна, і ціск, раздражнёны стаў. Мы ўжо і на прагулкі зь ім хадзілі, я яго супакойвала. Але нічога не прарочыла, каб вось так скончыць жыцьцё».

Нават у той дзень, 6 сьнежня, муж паводзіўся як звычайна, і яна нічога не адчула. Галіна працуе настаўніцай пачатковых клясаў у мясцовай школе. У яе 29 гадоў стажу, і яна ўжо таксама зьбіралася на пэнсію па выслузе гадоў. Але праз падвышэньне пэнсійнага ўзросту яшчэ будзе працаваць.

«Праводзіў мяне, дзьверы зачыніў, спытаў: „Калі будзеш?“. Я і падумаць не магла, — згадвае яна. — Вось гэтая квітанцыя, гэты падатак яго падштурхнулі да гэтага кроку. Калі б я яшчэ была дома… Але спыніць не было каму», — апавядае жанчына.

«З працай лягчэй. Дахаты не хачу прыходзіць, — тлумачыць яна. — Цяжка».

Галіну Пятроўну прыйшла падтрымаць яе калега і сяброўка Аксана. Яна кажа, што «трагедыя ўскалыхнула ўвесь горад».

«Мы ведаем, што мужчына пакінуў запіску, у якой напісаў, што ў жыцьці ён не дармаед, і пакінуў квітанцыю пра сплату падатку за дармаедзтва. Чалавек усё жыцьцё адпрацаваў, да пэнсійнага ўзросту, выйшаў на пэнсію, атрымаў званьне вэтэрана працы, усё жыцьцё добрасумленна працаваў, — кажа Аксана. — І замест таго, каб жыць далей, карыстацца тым, што ён зарабіў, ён сышоў з гэтага жыцьця».

Аксана апавядае, што і ў яе сям'ю прыйшло паведамленьне пра «дармаедзтва». Яго атрымала 22-гадовая дачка. «Ёй 22 гады. Яна цяпер працуе. І ўвогуле працуе з 15 гадоў, — кажа Аксана. — Падатак яна мусіць плаціць у сувязі з тым, што ў 2015 годзе працавала менш за 183 дні». Дзяўчыну тады звольнілі з працы, і пэўны час яна шукала працу, якая ёй падабаецца. — «І мы мусілі заплаціць 150 рублёў. Я перажывала, вось Галіна Пятроўна ведае. Для мяне гэта было балюча».

Жанчына доўга разважае, якія добрасумленныя і працавітыя беларусы. «Мы маладая эўрапейская дзяржава. У якой дзяржаве Эўропы яшчэ такое ёсьць? — пытаецца Аксана. — Закон абсалютна не прадуманы… У такіх умовах, калі дзяржава ня можа забясьпечыць людзей годнай працай, уводзіць падатак на дармаедзтва — гэта неабдуманы крок».

Аксана ўспамінае Айвара як усьмешлівага і прыязнага чалавека. «Высокі, прыгожы… Гэта быў шок, — кажа Аксана. — Гэта крок у нікуды. І гэты крок яму дапамагла зрабіць дзяржава».

Галіна Пятроўна кажа, што на працы ёй лягчэй перажываць гора. Быць дома ўсё яшчэ цяжка. Апавядае, што хоча атрымаць ад сьледчага хаця б копію запіскі, якую пакінуў яе муж.

«Я двойчы ўжо ў падатковую хадзіла, — са сьлязьмі кажа яна. — Думала, можа грошы гэтыя вернуць, 360 рублёў. Яны скапіявалі гэтыя дакумэнты, але — нічога. Нідзе праўды не дабіцца. Кажуць, такі закон».

**"Радыё Свабода"**

НАВАЦЫЯ Ў АДУКАЦЫІ

# «УЧЕБЫ НЕ БУДЕТ НИКАКОЙ…»

**Учитель и психолог прокомментировали изменения в Кодексе об образовании, которые затронут многих белорусов. Дети смогут идти в первый класс с пяти лет, а наполняемость классов увеличат до 30 учеников. Соответствующие изменения планируют внести в новую редакцию Кодекса об образовании. Как это повлияет на качество образования, анализируют эксперты Завтра твоей страны.**

**«Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?»**

Наполняемость классов в тридцать человек учитель гимназии Анна Северинец называет «преступлением против человечества».

— Учебы не будет никакой. Сильнейшие, конечно, выживут, слабейшие потеряют последний шанс научиться чему-то в рамках общей школы, — прогнозирует учительница.

Возможно, авторы этой поправки вспоминали свое школьное детство, когда в классах сидели и по 35, и по 40 учеников.

— Но тогдашние дети, с их советской выправкой, коллективным самосознанием, умением самоуничижаться перед взрослыми еще могли учиться в таких диких условиях. Сегодняшние дети этого уже не умеют — и слава Богу, — говорит Анна Северинец.

В наше очень индивидуализированное время, когда у многих детей уже свои комнаты, свои рабочие места дома, когда уходит необходимость отстаивать толпами очереди ради каких-то благ, бессмысленно надеяться, что можно научить чему-нибудь 30 индивидуальностей скопом.

В классе, где учится старший ребенок психолога и медиатора Олеси Пономаренко, 32 человека.

— Учитель говорит, что работать очень тяжело, потому что всем внимание уделить не удается. Учебный процесс строится исходя из того, что учитель должен уделить внимание как успевающим детям, так и тем, кто отстает. Увеличение количества детей в классе только усугубит эту ситуацию, — считает психолог.

Эксперт полагает, что в итоге укрупнение классов негативно скажется и на успеваемости, и на заинтересованности детей, которая и без того падает.

— Ребенок идет в школе не только за знаниями. Мотивация — это еще и построение взаимоотношений. Когда учитель не может уделить внимание ребенку, у него падает заинтересованность в том, чтобы ходить в школу, — подводит итог Олеся Пономаренко.

«Сэкономите на школах — разоритесь на тюрьмах»

По мнению Анны Северинец, классы, наоборот, надо серьезно уменьшать.

— Хорошее количество — это 12-15 человек. Это работоспособный коллектив. Большее количество детей в классе вызывает трудности, с которыми не каждый учитель справится. Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?

Станет ли в белорусских школах меньше учителей-недоучек?

**«Психика пятилетнего ребенка не готова к школе»**

Появившуюся возможность отдавать ребенка в школу с пяти лет Анна Северинец рассматривает как позитивное изменение.

— Это ведь не обязанность, а добрая воля родителя, который видит своего ребенка, знает, на что он способен, сможет ли он легко и комфортно вписаться в школьный режим — почему бы и не дать этой доброй воле выхода? — рассуждает собеседница. — Я сама шла в школу в шесть лет при тогдашнем семилетнем общем пороге, и никаких проблем.

Тут главное не увлечься гонкой за призрачным успехом, а внимательно и доброжелательно следить за развитием собственного ребенка, предупреждает учительница.

Однако психолог Олеся Пономаренко считает, что детская психика к пяти годам не готова к учебному процессу.

— В школе нужны самоорганизованность и взаимодействие в социуме, — подчеркивает эксперт.

По мнению Олеси Пономаренко, психика пятилетнего ребенка не готова к школе, и поход в первый класс в этом возрасте может привести к развитию заболеваний.

— Ребенок может стать тревожным, плохо спать. Его психика может не справиться с задачей, которую на него возлагают. Как результат — это скажется не только на успеваемости, но и на общем психофизиологическом уровне.

Специалист не советует родителям отдавать детей в школу с пяти лет.

—Большинство детей готово к школе ближе к семи годам. Хотя бы в шесть с половиной, — говорит Олеся Пономаренко.

**Мария Владимирова**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.01.2017 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.